# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго паважанага грамадзянства з просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*„Беларуская Зарніца“ ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, соцыянальнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці скліканьня Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня II. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслауных Беларусоў.

1-га траўня 1929 году

Падпісная цана:
за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.;
½ г.—4,50, 1 год—8 зл.

№ 5 (13)

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.

## Слова Сьвятога Іаана Златавустага на Вялікдзень.

Хто багабаязны і багалюбівы, хай усьцешыцца цяпер, у гэта вялікае сьвята.

Мудры служэбнік з радасьцю падзялі радасьць Госпада твайго.

Хто працаваў у пост — атрымае цяпер нагароду.

Хто пачаў ад першай гадзіны, прымі цяпер належную падзяку.

Хто прышоў пасьля трэцяй гадзіны, дзякуй і сьвяткуй разам.

Хто пасьпеў пасьля шостай гадзіны, ні мала ні сумлявайся, бо нічога ня траціш.

Хто не пасьпеў і на дзявятую гадзіну, прыступай бяз ніякага сумліву, бяз ніякага страху.

Хто ўрэшце не пасьпеў прыйсьці і на адзінадцатую гадзіну, і той не палохайся спазьненьня: гасьцінны Гаспадар і апошняга прымае — як першага; нагараджае прышоўшага ў адзінадцатую гадзіну — так як і таго, хто працаваў ад першае гадзіны; і апошняму прабачае — і першаму аддае належнае; і гэтага нагараджае па заслугам і таго абдарае.

Ен працы прымае і замеры хваліць, і за працу дзякуе пашанаю, а за добрую думку — пахвалой.

Дзеля гэтага ўсе падзяліце радасьць з Госпадам сваім. Першыя і другія прыміце нагароду. Багатыя і бедныя весяліцеся разам.

Шчырыя працаўнікі і гультаі аддайце пашану сяньняшняму дню. Пасьціўшыя і не пасьціўшыя сьвяткуйце сяньня.

Стол поўны—весяліцеся ўсе. Цялец укормляны, — ніхто ня выдзе галодным. Усе насыцьцеся на піру веры, усе скарыстайце багацьце благадаці.

Ніхто ня плач па сваіх грахах, бо ўсім абвешчана з гробу прабачэньне.

Ніхто ня бойся сьмерці, бо вызваліла нас сьмерць Спасіцеля.

Ен перамог яе ў той самы момант, калі быў у яе руках.

Зьнішчыў магутнасьць пекла, як вайшоў у яго.

Разбурыў, як толькі яно дакранулася да Яго цела.

І гэта, здаўна прадбачачы, Ісаія ўсклікнуў: „Пекла засмуцілася, спаткаўшы Цябе ў сваіх глыбінах“.

Яно засмуцілася ад таго, што зьнішчылася, —

засмуцілася ад таго, што пацярпела паражку, —

засмуцілася ад таго, што страціла сваю сілу! —

засмуцілася ад таго, што пазбавілася свае ўлады, —

засмуцілася ад таго; што было зьвязана.

Узяло цела, а даткнулася Бога, —

Узяло зямлю, а спаткала неба, —

Узяло тое, што бачыла, а атрымала тое, чаго і не спадзявалася!

Сьмерць! гдзе-ж твае жала?

Пекла! гдзе-ж твая перамога?

Васкрэс Хрыстос — і ты разбурана!

Васкрэс Хрыстос — і зьніклі нячысьцікі!

Васкрэс Хрыстос — і радуюцца ангелы!

Васкрэс Хрыстос — і царствуе жыцьцё!

Васкрэс Хрыстос — і ні адзін нябошчык не застанецца ў магіле, бо Хрыстос, уваскрэсшы з мертвых, — першы перамог сьмерць. Яму слава і панаваньне Яго на векі векаў. Амін.

# Сьвятлейшая з начэй...

Цёмная палясьцінская ноч.

Усё ў прыродзе спавіта было глыбокім сном, на ўсім ляжала заслона начной таямнічай цішыні і спакою.

Здалёк бялеюць зубчатыя сьцены Ерусаліму. Спіць стары горад. Спакойна адпачываюць у ім іудэйскія старэйшыны і першасьвяшчэньнікі.

Галгофа пустая. Толькі ўчарайшыя тры крыжы, быццам чорныя здані, чарнеюць на ёй. Сэрца замірае, калі глядзіш на гэтыя страшэнныя прылады чалавечае нянавісьці і жорсткасьці.

Падыходзіць поўнач... У саду Восіпа Арымафейскага, каля запячатанае пячэры, рухаюцца нейкія цені. Гэта варта, прыстаўленая да гробу, у якім пахаваны Ісус з Назарэту.

Цішыня.. цемната... Раптам... што гэта такое?

Жаўняры ў вялікім страху нейкаю няведамаю сілаю раптоўна адкінены ад гробу, які яны пільнавалі, і пападалі на зямлю.

Пячаць цэлая, не паломаная, а між тым Ён, учора яшчэ засуджаны на сьмерць, перацярпеўшы страшныя мучэньні, перацярпеўшы зьдзекі і кпіны, памершы разам з злодзеямі на крыжы, — Ён, гэты сталяр з Назарэту, Ісус — васкрэс!

Сьветлы, поўны любві і прабачэньня воблік Хрыста зьвернуты на Ерусалім. Замест праклёну замучыўшаму Яго сьвету — Ён падняў свае прабітыя цьвікамі рукі для благаслаўленьня гэтага сьвету.

Хрыстос васкрос—і ўсё ажыло!

Хрыстос васкрос—і зьнікла цемната ночы.

Хрыстос васкрос—і загараецца зара новага дня.

Хрыстос васкрос—і ўсё імкнецца да жыцьця да радасьці.

Вялікая наша радасьць ад васкрасеньня Хрыста! І як ня радавацца такому дню? Якое вялікае багацьце даравана ўсяму чалавецтву!

Хрыстос васкрос—і ўсё напоўнілася сьвятлом: неба і зямля, і нават пекла!

Хрыстос васкрос—і жыцьцё сьвяткуе перамогу над сьмерцю!

Хрыстос васкрос—і пекла разбурана!

Хрыстос васкрос — і сіла любві і праўды перамагла цёмныя сілы хітрасьці і зла.

Няхай Праўда зьняважана, замучана, нават пахавана, прыцісьнена цяжкім каменям,—але Яна паўстане, падымецца, разарве ўсе ланцугі, і прыгожая, сьветлая, як сонца, зьявіцца сьвету!

Хрыстос васкрос і заклікае ўсіх нас ад сьмерці да жыцьця, ад зямлі да неба!

Хрыстос васкрос, і вышэй падымаецца душа, забываюцца ўсе няшчасьці жыцьця, — робіцца зразумелым, што жыцьцё ёсьць шлях да неба, да сьвятла, да праўды, і што для падарожы па гэтаму шляху нам дадзены новыя сілы.

Хрыстос васкрос, і вось увесь сьвет хрысьціянскі „утру глыбоку“ прыносіць Яму радасныя песьні. Сэрцы людзей зьліваюцца ў адным найвышэйшым імкненьні, і ўсе, як браты і сёстры, гатовыя абняць адны другіх і ўсё прабачыць адны другім.

Чыё сэрца ня б'ецца ад радасьці пры словах: Хрыстос васкрос?

Для каго з нас не салодкія песьні васкрасеньня Хрыста?

Войдзем жа ўсе ў радасьць Госпада нашага. Няхай усе радуюцца цяпер: і багатыя, і бедныя, і ўстрыманыя, і няўстрыманыя, і руплівыя, і няруплівыя. Няхай ніхто ня плача аб грахох, бо з гробу засіяла прабачэньне!

Васкрэсшы Спасіцель сьвету са Сваім Крыжам, сымболям любві, дабраты, пакуты і самаахвярнасьці, ашчасьлівіў нас тым, што навучыў нас адчуваць і разумець, што запраўднае шчасьце—не ў зьле і гвалце, а ў любві і згодзе, і што запраўдны сэнс жыцьця ня ў прывязаннасьці да цела і да зямных, хвілёвых прыемнасьцяў, — а ў вялікім служэньні Бажэсьцьвеннай любві.

Запомнім-жа ўсё злое і нячыстае, пакінем усе спрэчкі і падамо друг другу рукі і з радасным біцьцём узварушанага сэрца, з душою, поўнаю сьветлай любві, скажам адзін другому: „Хрыстос васкрос! Запраўды васкрос!“

**А. К.**

---

# Хрыстос васкрос!...

Хрыстос васкрос!... Усюды радасьць,
Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей;
Вялікі Мучальнік, здаецца,
Абняў усіх ласкаю сваей.

Хрыстос васкрос!... Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве адна сьвятая думка
З канца ў канец, як сьвет вялік.

Хрыстос васкрос! пяе сялянін
З сваёй убогаю раднёй,
Забыўшы песьні аб прадвесьні,
Забыўшы ўсё усей душой.

Хрыстос васкрос! пяе сіротка,
Слуга таптаная людзьмі;
Пяе ў чужыне падарожны,
Забыты бліжнімі сваймі.

Хрыстос васкрос! пяюць і тыя
Хрыста згубіўшыя сыны,
Што ў ціхамоўку ладзяць сеткі
Для нашай беднай стараны.

Хрыстос васкрос!... К Табе, о Божа,
І я ў дзень гэты думку шлю:
Хай Беларусь, мая старонка
Васкрэсьне к лепшаму жыцьцю.

**Янка Купала.**

---

# Узыйшло сонца.

Як ранешні туман, прайшоў вялікі дзень суботні жыдоўскае Пасхі...

„Яшчэ так рана і цёмна... Чаго-ж ты стаіш тут, Марыя? Што прывяло цябе сюды так рана? І ноч глыбокая, ноч цёмная пашто ляжыць у тваім сэрцы? Сонейка ўжо ўзыйшло, ужо Яно асьвятліла і абагрэла сьвет... Ты плачаш? Аб чым-жа сьлёзы, пашто яны? Глянь у дамавіну: яна пустая... Каго-ж ты шукаеш?“

—„Няма, няма майго Бога... Я бачу, — забралі цела Спасіцеля майго, і ня ведаю, куды палажылі... А я прыйшла, сьпяшалася, бегла ўначы — рана, каб, пакуль яшчэ ня ўзыйшло сонца, апошні раз заплакаць над Ім. Вось мае сьлёзы, вось міра—дар Яму ад любячага сэрца... Але дзе Ен, Вучыцель мой, мой Збаўца, Выгнаўшы сем бесаў, прабачыўшы ўсе мае грахі? Сонейка ўжо ўзыйшло, а я? Я спазьнілася! Скажыце, куды схавалі Яго?“

І заплакала горка ў саду Арымафея Марыя з Магдалы...

А сонечная касуля так весела грала ўжо ў яе вачох, і кроплі сьлёзаў, як дарагі дыямэнт, спадаючы на траву, адбівалі ў сабе сонечныя прамені...

...Вось Нехта падышоў і стаў за сьпіной. Сказаў: „Каго ты шукаеш, жанчына? Аб кім ты плачаш?“

Марыя абярнулася,

— „Можа гэта садоўнік?“

— „О, пане, скажы мне, калі ты ўзяў цела Мучальніка Ісуса, дык дзе Яно? Куды ты схаваў?“...

— „Марыя!“

— „О, Раввуні!“

Гэта быў Гасподзь,—ўскросшы Бог, — яе, Марыі ўскрасіцель.

Марыя ўпала на зямлю і ўжо ня горка, але радасна плакала. І гэтыя сьлёзы, як дарагія дыямэнты, падалі да параненых ног Хрыста.

*

У тую хвіліну два сонцы ясна сьвяцілі сьвету: адно сонца радасна ўсходзіла з-за гары, асьвятляючы прыроду і абвяшчаючы людзям новы дзень сьвяточны: другое-ж Сонца, Сонца Праўды, устаўшы з гробу, абвесьціла сьвету новую Пасху і ўмацавала гэты „нарачэнны і сьвяты дзень“ у гісторыі вякоў.

**Сьв. Ан. Сагайдакоўскі.**

---

# Радасьць Васкрасеньня Хрыстова.

## Хрыстос Васкрос!

Чые сэрца не напаўняецца радасьцю, чыю душу не асьвятляюць праменьні незямнога сьвятла пры гэтых словах? Запраўды гэта ноч васкрасеньня, — „сьветазарная ноч, сьветаноснага дня“, як пяецца сяньня ў царкве! Запраўды сяньня ўсё напоўнілася сьвятлом: неба, і зямля, і пекла: усюды сьветла, відна, бо запраўды васкрос Хрыстос! Адзін з выдатных прапаведнікаў так кажа аб васкрасеньні Хрыстовым: „Ен васкрос, — і як зьнікае цемната перад касулямі ўсходзячага сонца, як бяжыць начны холад перад сонечнай цеплатой, так зьнікаюць перад весткай аб васкрасеньні рожныя страхі і кожны сум; Ен васкрос і напоўніў гэтым сьвет такою радасьцю, бадзёрасьцю, верай і жыцьцём, што перад імі аслабла моц сьмерці, і знаходзячыяся ў дамавінах, паўставалі! Як зьнікае дым, як тае воск ад агню, так зьнікаюць з душы, веруючай у васкрасеньне, апошнія сумляваньні, бягуць няпэўнасьці і ўсе спробы ворага праўды напоўніць яе недавер'ем да дабра і праўды, нявер'я ў іх аканчальную перамогу над злом і крыўдай. Усе мы радуемся васкрасеньню Хрыстову, бо яно—жыцьцё, залог вечнага жыцьця і радасьці. Ен

васкрос... О, цудоўная, усёаджыўляючая вестка! О, сьветлая, усерадасная ноч васкрасеньня! У хвалях штодзённага жыцьця, калі глядзіш на цябе здалёк, ты выдаешся звычайнаю сярод іншых начэй году. Але прыйшла ты, сьветлая. заглянула ў душу,—і ўсё асьвятліла, усім заўладала ў глыбіні сэрца, і ня ўнікае ад тваяго ўплыву самая закаранеўшая ў нявер'і душа! Не дарма песьняры ўсіх часоў і народаў злажылі на хвалу Васкрасеньня Хрыстова цудоўныя песьні; не дарма адзін з тытанаў расейскае думкі Дастаеўскі прызнаецца, што ў гэтую ноч васкрасеньня ён першы раз, пасьля гарачае спрэчкі з атэістам, пры першым удары звону на Службу Божу, „реально опознал Бога".

Чым балей жывеш, тым сур'ёзьней адносішся да абкружаючага. Чым шырэй вопыт, танчэй сумленьне і бліжэй апошняя, нямінуючая мяжа існаваньня, — тым балей адчуваеш усю бязьмежную глыбіню праўды васкрасеньня, іменна, у ім таксама, быццам, „реально опознаеш Бога"... Жыцьцё паўно праціўлежнасьцяў, зло так часта перамагае, пачуцьцё ўласнае слабасьці так цяжка, сьмерць так нямінуча і страшна: куды схавацца ад усяго гэтага, дзе знайсьці падтрыманьне? У васкрасеньні нашага Бажэсцьвеннага Вучыцеля! Запраўды Ен васкрос і па сваіх ранах быў прызнаны вучнямі. Што было-б, калі-б Ен не васкрос? Тады Пілат і Іуда, і Ганна з Каіафаю і падкупныя сьведкі, і азьвярэўшы натоўп, і зайздросныя кніжнікі, — усе яны былі-б гаспадарамі сьвету і былі-б апраўданы жорсткаю праўдаю жыцьця. Але Ен Васкрос, даказаў Свае Бажаство, перамог зло, умяртвіўшы самую сьмерць,— гэтае зло найстрашнейшае. Ен васкрос, наш Вучыцель і Гасподзь; Ен абясьсіліў сьмерць; Ен даў надзею і залог на аканчальную перамогу вечнае Праўды. Ен жывым і мертвым абвесьціў вызваленьне ад зла.

Як ня радавацца Яго васкрасеньню? Па небу і зямлі нясецца радасная вестка, так добра сымбалізаваная цаладзенным звонам у царквох. Хрыстос Васкрос! — так кажа сьвету, як жывы, гэты „мядзяны голас". Хрыстос Васкрос! — так усклікаюць жанчыны, прыйшоўшыя да гробу і не знайшоўшыя там Госпада, жанчыны, якім Сам Ен зьявіўся ў той час, калі яны ў сьлязах стаяць каля пустога гробу. Хрыстос васкрос! — усклікаюць вучні, бо яны бачылі ўваскросшага Хрыста, ішлі з Ім, елі і пілі. Хрыстос Васкрос!—усклікаюць пяцьсот братоў, якія бачылі Уваскросшага. Хрыстос Васкрос! — кажуць жаўняры, стаяўшыя на варце каля гробу і абвесьціўшыя Ерусаліму аб здарыўшамся. Хрыстос Васкрос! — кажуць самыя ворагі Хрыста. Яны запячаталі Яго гроб, яны пільнавалі Яго, яны зрабілі ўсё, каб затрымаць Яго цела, хочучы перад усім народам паказаць пустату веры ў Яго. Паказаўшы мертвае цела, яны маглі назваць Яго абманшчыкам, бо калі-б Хрыстос не васкрос, дык вера нашая ня мела-б падставы. Яны прызнаюцца, што ня могуць назваць словы Яго вучняў маной і кажуць ім толькі маўчаць. Хрыстос Васкрос! — усяму сьвету кажуць міліёны мучальнікаў, сцьвярджаючы вернасьць Ускросшаму сваёй сьвятою крывёй.

І так Ен васкрос на радасьць вучням і сьвету; Ен васкрос, ня гледзячы на нянавісьць ворагаў, ужо сьвяткаваўшых перамогу над Ім. Сьмерць ня ўтрымала ў сваіх абоймах Кіраўніка жыцьця, пекла спаткала ў Ім сваяго разбурыцеля. Цэлая грамада верных бачыць перад сабою Хрыста. Сусьветная царква ў радасьці і вясельлі схілілася перад Ускросшым Хрыстом і ўсклікае да Апосталаў: „Сьмерць! Дзе твае жала? Пекла! Дзе твая перамога?" „Упразднілся ад, ібо нізложілся! Упразднілся ад, ібо паруган бысьць!" Так! Паругана пекла, зломана сьмяртэльная моц яго, і вызвалены чалавек ад улады сатаны. Адгэтуль бадзёрасьць жыцьця хрысьціянскіх народаў, адгэтуль сьвятло і радасьць нашае веры, адгэтуль сусьветная радасьць Васкрасеньня Хрыстова, адгэтуль сьвятло і агні, і радасьць гэтае вял'кае ночы, „сьветазарнай ночы сьветаноснага дня"!... Бо Хрыстос Васкрос! — Запраўды васкрос!

**Сьв. А. Паўлюкоўскі.**

# Вялікдзень.

Два сьвяты на сьвеце — ад нівы да нівы:
Хрыстос уваскрос! наступае вясна!
Глянь сьмела, глянь вольна, шчасьліў, нешчасьлівы,
І далей к жыцьцю з паніжэньня і сна!

Гэй, гэй, на спатканьне вялікіх двух сьвятаў,
Сьпяшыце супольна, хто ў путах ня згніў!
Хай льюцца—зыльюцца ад хаты да хаты
У вадно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!

Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да нівы.
Забыў не адзін з нас нядаўныя дні,
А ўспомні — прыпомні, шчасьліў, нешчасьлівы,
Аб тых, што ў сьвітаньні на век адайшлі, —

Усе костачкі тыя на гонях папарных, —
Жывых, што ў бяспуцьці акуцьцям зьвіняць...
Прыпомні, дай слова ня шчэзнуці марна,
Пачатую справу шырыць, расшыраць!

Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да нівы
Заводзе бацькоў сваіх песенку сын.
Зірні-ж, азірніся, шчасьліў, нешчасьлівы,
І заўтра на поле да сох, як адзін!

Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных ня можам пазбыціся сьлёз...
Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне,
Вясна ўжо на сьвеце, Хрыстос уваскрос!

**Я. Купала**

---

# Вялікая Ноч.

**Першая служба ў Вялікую Ноч! Божа, як білася сэрца, калі маці сказала, што першы раз у маім жыцьці, возьме мяне з сабою ў царкву ў Вялікую Ноч. Кладуся спаць, але спаць ня хочацца і толькі чакаеш, калі прыйдзе гэты жаданы час. Вось ён наступіў.**

**Пасьля цішыні, якая з вечару запанавала на нейкі час у хаце, у рожных яе кутках чуваць радасны шум збораў у царкву.**

**Апранены па сьвяточнаму, ідзеш уначы па цёмнай вуліцы. Яшчэ не званілі, царква яшчэ на палову цёмная, але яна ўжо напоўнена народам. Кожны стараецца праціснуцца ў царкву, баючыся, што пасьля не пападзе і змушаны будзе стаяць на двары.**

**Усе стаяць, апраненыя па сьвяточному, з новымі сьвечкамі ў руках. У царкве чуваць ціхі, прыглушаны шэпт.**

**Запальваюць сьвечы ў панікадзіле... Як відна зрабілася, як шмат людзей у царкве, які радасны настрой адчуваецца ва ўсіх, як весела і радасна глядзець на ўсіх!**

**Вось нехта раптам перахрысьціўся, пачуўшы ўдар звону, — і запраўды**

ўдарылі другі, трэці раз, — і паняесьліся хорам цудоўныя, таемныя гукі і вось, нарэшце, самы вялікі звон сваім моцным густым гудзеньнем заліў усю царкву і зглушыў усе іншыя гукі.

Божа, якая радасьць! Як радасна і прыемна стаяць разам з братам і сястрой каля мацеры, слухаць іх, таемны шэпт, глядзець навакола і чакаць-чакаць усёю сваёю дзіцячаю істотай...

А далей? далей цэлы мір новых перажываньняў для ўзрушанага дзіцяці.

Вынясьлі з аўтару старыя-старыя, недзе далёка стаяўшыя абразы, якіх я яшчэ ніколі ня бачыў, зьнялі з сваіх мяйсцоў пратэсы, якіх я яшчэ таксама ніколі ня бачыў, і запялі: „Васкрасеньне Твае, Хрысьце Спасе“... Працэсія кранулася...

Вось, зачынілі царкоўныя дзьверы; царква поўна народу. Усе запалілі свае сьвечы. Ва ўсіх такія спакойныя, паважныя твары. Усе стаяць ціха-ціха, не гаворачы ні слова. Дзіўным здаецца ўсё гэта для дзіцяці. Глядзіш навакола: старэнькая жанчына стаіць з запаленаю сьвечкаю ў руцэ, моліцца і ціха плача, але гэта сьлёзы ня гора, а радасьці. Маці, брат і сястра глядзяць проста і радасна ў вочы, але не сьміюцца. А ў царкве так ціха, быццам нікога там няма, — і над гэтаю цішаю толькі гудзіць урачыста гук званоў.

За дзьвярамі чутны адрывістыя зыкі голасу сьвяшчэньніка і пяяньне хору. Людзі ўзварухнуліся: яны хрысьцяцца і ціха шэпчуць словы малітваў. Раптам адчыніліся дзьверы, і раздалося гучнае. „Хрыстос Васкрэс!“, у адказ на што радасна вырвалася з вуснаў людзей: „Запраўды Васкрэс!“.

Хутка ўся царква разам з хорам пяяла радасныя песьні Васкрасеньня.

О, сьвятыя песьні, кожнаму знаёмыя, кожнаму мілыя! Хто з праваслаўных не пяе вас і не рэагуе на вашы гукі ўсім сваім сэрцам. І дзіця, першы раз пачуўшы Вас, адчувае вялікую радасьць, і стары, шмат разоў на сваім вяку сустракаўшы Вялікдзень, калі пачуе вас, быццам зноў маладзее, становіцца дзіцём і радуецца Васкрэсшаму дзіцячаю радасьцю,

Калі-б ні пачула вас мае вуха, калі-б ні прадставіла фантазыя сьветлую Вялікодную ноч, у душы маёй расцьвітае і разьліваецца радаснае пачуцьцё. І дзяцінства мілае, даўно мінулае дзяцінства ўспамінаецца мне, з новай сілай паўстаюць у маёй душы тыя пачуцьці і надзеі, якімі яна жыла і радавалася ў тую шчасьлівую пару.

У гэтых надзеях — сьвет усяго жыцьця, водгук вечнага сьвята, водблеск невячэрнага дня ў царстве Хрыстовым.

Адыдзіце прэч, горкія клопаты!

Няхай тое ня збылося, чаго чакала сэрца!

Няхай тое, аб чым успомніць і падумаць страшна, застаецца ў жыцьці, няхай яно стаіць, нават тут каля мяне!

Няхай тое, у што верыла мае сэрца, абманула мяне, ня збылося!

Няхай тое, што было даражэйшым ад жыцьця, пакінула жыцьцё!

Няхай тое, што здавалася праўдай, прыгожасьцю і сьвятлом — было маной, цемрай і агідай!

Жыцьцё, — усё, як ёсьць, з усім што ёсьць у табе, — заставайся, — ты з усімі няшчасьцямі ня страшна нам, бо з гэтым ўдарам звону пракляцьце спала з цябе. У гэтую хвіліну благаслаўленьне Божае ачысьціла цябе зноў і ты зіяеш, і красуешся, і блішчыш і трапечаш ад любві Божае — мілае, сьветлае, шчасьлівае жыцьцё! Ты ўсё пакрыта расою Божаю, усё абмыта крывёю нашага Спасіцеля.

Сьвятло Васкрасеньня Хрыстова асьвятліла тваю праўду, і будучыню тваю злучыла з сучасным і мінулым у адным пачуцьці бязьмежнага шчасьця! Ох! калі-б гэты момант затрымаць! Ох, калі б назаўсёды затрымаць у душы гэтую гармонію і пачаць жыць, і ня канчыць жыць з адным гэтым клічам, з адным гэтым пачуцьцём: „Хрыстос Васкрэс!“ — „Запраўды Васкрэс!“

А. К.

# Р. Н. А. аб становішчы Праваслаўнае Царквы у Польшчы.

У палове красавіка ў Уладзіміры на Валыні адбыўся зьезд Р. Н. А. (Расейскае Народнае Аб'яднаньне), які вынес цэлы шэраг пастановаў. Нас ня цікавяць гэтыя пастановы па ўсім, закранутым на зьездзе пытаньням; нават мала цікавіць, хаця і выяўляе запраўднае аблічча Р. Н. А., і тое, што яно беларускі і украінскі народы лічыць не самастойнымі нацыямі, а толькі „группами населенія“, але нас асабліва цікавіць рэзалюцыя Р. Н. А. па царкоўнаму пытаньню.

„Зьезд канстатуе“, гаворыцца ў пастанове, „што становішча Праваслаўнае Царквы ў Польшчы да сучаснае пары не ўнармавана. Яна існуе на падставе часовых правілаў, вельмі абніжаючых і крыўдных для праваслаўнае царквы, якая займае другое мейсца пасьля каталіцкае, па ліку сваіх верных! Дзеля гэтага, прызнаючы краявы Царкоўны Сабор, склісканы на кананічнах падставах, адзіным правамоцным ворганам, здольным вырашыць усе пытаньні як прынцыповыя, так і прыватныя, датычучыя жыцьця Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, зьезд зьвяртаецца з просьбай да Вышэйшае Царкоўнае Улады аб хутчэйшым скліканьні яго на кананічных падставах і на падставе свабоднага выбару вернымі ўсіх яго сяброў, як ад духавенства, так і ад міран. Роўным чынам зьезд заклікае Урад дапамагчы склікаць Сабор“.

Што датычыць першае часткі прыведзенае рэзалюцыі, у якой гаворыцца аб прыніжаным і крыўдным становішчы, на падставе часовых правілаў, Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, дык гэта зусім праўдзлова; аднак-жа дзіўным выглядае, што зьезд ломіцца ў адчыненыя дзьверы, пераносячы адказнасьць за няскліканьне Сабору на Вышэйшую Царкоўную Уладу. Ці-ж Р. Н. А. ня ведае, што Вышэйшая Царкоўная Улада імкнецца да скліканьня Сабору, але ў гэтым сустракае перашкоды з боку чыньнікаў не ад яе залежных.

Вышэйшая Рада Р. Н. А. на паседжаньні 18-19 лістападу мінулага году ў Варшаве па гэтаму-ж пытаньню між іншым пастанавіла: „Вышэйшая Рада пратэстуе процiў перашкодаў, якія робяцца Міністэрствам Вызнаньняў Мітраполіі ў справе скліканьня Мітрапалітальнае Рады“ — і г. д.

Дзе-ж тут шчырасьць, праўда і лёгічнасьць? Вышэйшай Радзе Р. Н. А., як і ўсім іншым, хто гэтаю справаю цікавіцца, добра ведама, што калі Міністэрства Вызнаньняў робіць перашкоды нават для скліканьня Мітрапалітальнае Рады — падгатаваўчага воргану для скліканьня Сабору, — дык тым балей яно робіць перашкоды скліканьню Сабора. Гэта добра ведае і зьезд Р. Н. А., ці яго запраўілы, але абвінавачваючы Вышэйшую Духоўную Уладу ў няскліканьні Сабору, ён кіруецца матывамі нічога супольнага ня маючымі з справамі Царкоўнымі.

Далей зьезд у сваёй пастанове піша: „Р. Н. А. прызнае паменшаньне ліку праваслаўных прыходаў, якое праводзіцца ў сучасную пару ў рожных мяйсцох Польшчы, вельмі шкодным і непажаданым ня толькі для праваслаўнае Царквы, але і для спраў дзяржаўных на крэсах дзеля таго, што духавенства зьяўляецца ня толькі пастырствам, вядучым верных ад зямлі на неба, але і правадніком правапарадку і хрысьціянскае культуры ў народныя масы“!

Зусім слушна: трэба быць моцна хворым на фанатызм і шовінізм, каб ня бачыць, як шкодна ўціск праваслаўнае Царквы адбіваецца на справах дзяржаўных.

Найцікавейшаю зьяўляецца наступная частка пастановы зьезду Р. Н. А.

„Нарэшце зьезд катэгарычна сцьвярджае, што праваслаўны народ, выхаваны ў духу традыцыі Праваслаўнае Царквы і адданасьці яе царкоўна-багаслужэбна-

му ладу і мове, не дапусьціць якіх-небудзь зьменаў у ведамым ладзэ і мове сваё Царквы бяз волі ўсяго праваслаўнага народу, адзіным аўтарытэтным выразіцелям якое зьяўляецца Царкоўны Сабор".

Тут паўстае пытаньне: які гэта праваслаўны народ, выхаваны ў духу традыцыі Праваслаўнае Царквы не дапусьціць зьменаў у ладзэ і мове сваё Царквы?

Праваслаўных народаў шмат: арабы грэкі, баўгары, сэрбы, румыны і г. д., а нятолькі расейцы. Кожны з гэтых народаў мае свае традыцыі, сваю царкву і сваю багаслужэбную мову.

І калі казаць аб традыцыях — дык у расейцаў яны наймалодшыя.

Зразумела, што гаворачы ад імя праваслаўнага народу, аб традыцыях і сваёй царкве, зьезд Р.Н.А. не мае на мэце не арабаў і грэкаў, а беларусаў і ўкраінцаў, але ў яго не хапіла адвагі адкрыта выказаць сваю думку аб забароне расейцамі беларусам і ўкраінцам маліцца ў сваёй роднай мове і прытрымоўвацца сваіх традыцыяў, дзеля гэтага вышэйпададзеная частка прапановы зьезду зложана так нявыразна і няпісьменна. Адносна традыцыяў трэба адзначыць, што і ў беларусаў, і ў украінцаў яны таксама старэйшыя як у расейцаў, бо-ж хрысьціянства па ўсходняму абраду (праваслаўнаму) ішло да расейцаў праз Беларусь і Украіну, а не наадварот. Расейцы яшчэ былі паганцамі, калі беларусы і ўкраінцы былі хрысьціянамі.

Беларусы і ўкраінцы вякамі вялі змаганьне з лацінствам за чысьціню праваслаўя, і ня гледзячы на няроўныя сілы яны яго захавалі.

А што мы бачым у сучасны момант? Таксама, з мэтамі нічога супольнага ня маючымі з справамі чыста рэлігійнымі, стараюцца распашырыць паміж беларусаў і ўкраінцаў вунію, але бяз ніякага посьпеху.

А ў гэты час колькі ўжо расейцаў і з вышэйшых радоў прыняло вунію і каталіцтва ў Эўропе. У Рыме існуе каталіцкі багаслоўскі інстытут у расейскай мове, у які прымаюцца расейцы і гатовяцца кадры ксяндзоў для акаталічаньня расейскага народу. Значыцца, стаўка ставіцца не на беларусаў, або ўкраінцаў, цьвердасьць якіх добра ведаюць, а на расейцаў.

Найлепшым доказам стойкасьці расейцаў служыць даклад на тым-жа зьездзе Н. С. Сярэбранікава, у якім ён між іншым кажа: „Мы ахвотна адзяемся ў зашчытныя колеры „тутэйшых", паляшукоў і г. д., каб толькі ўнікнуць нявыгаднай і небясьпечнай прыналежнасьці да расейскае нацыянальнасьці".

Далей Сярэбранікаў прывозіць прыклады тае лёгкасьці, з якою вельмі часта расейцы ў прысутнасьці польскага ўрадоўца, адмаўляюцца ад сваё роднае мовы.

Такім чынам з аднаго боку расейцы перад польскім урадоўцам выяўляюць страх за сваю расейскую нацыянальнасьць, а з другога — пагражаюць, што не дазволяць беларусам і ўкраінцам маліцца, як яны хочуць.

Нельга абыйсьці моўчкі пытаньне аб багаслужэбнай мове, зьмены якое Р. Н. А. „не допустит". На старонках „Беларускае Зарніцы" ўжо ня раз адзначалася, што праваслаўныя беларусы ня імкнуцца да замены ц.-слаўянскае мовы ў багаслужэньні беларускаю, дзеля таго, што ў гэтым цяпер яшчэ няма патрэбы, і ўвядзеньне беларускае мовы, як багаслужэбнае, блага адбілася-б на справах царквы, — але яны нічога ня маюць прынцыпова проціў ужываньня роднае мовы, як багаслужэбнае там, дзе яна задавальняе рэлігійныя патрэбы народу, а значыць і карысна для царквы.

Глядзець на гэтае пытаньне інакш — толькі выяўляць няшчырасьць адносінаў да царквы. Паміж усіх народаў хрысьціянства пашыралася на роднай і зразумелай мове гэтых народаў; у большасьці праваслаўных народаў багаслужэньне выконваецца на іх родных мовах. Сьв. браты Кірыла і Мяфодзій нясьлі нам хрысьціянства на зразумелай нашым продкам славянскай мове (дзеля таго яны апрацавалі і славянскі альфабэт), але ня тэй славянскай, якая цяпер ужываецца ў царкве, — а на старой славянскай, якая была ў той час роднаю жыцьцёваю, жывою (разгаворнаю) моваю славян. Трэба адзначыць, што сьв. браты Кірыла і Мяфодзій за сваю навіз-

ну таксама шмат перацярпелі перасьледаваньня і ўціску ад лацінаў, — былі нават выкліканы ў Рым на суд.

Дзеля гэтага і цяпер усе тыя, якія выносяць пастановы „не допустить“ у багаслужэньні роднае мовы там, дзе ў гэтым ёсьць патрэба, ці не ўпадабляюцца тым, хто прасьледаваў, уціскаў і аддаваў пад суд сьв. братоў Кірылу і Мяфодзія?

Няма сумліву, што Р.Н.А. імкнецца выкарыстаць царкву як аружжа для дасягненьня мэтаў не царкоўных. Доказам гэтага можа служыць яшчэ так нядаўная палітыка Р. Н. А., калі падчас выбараў у сучасны Сойм, яно ў сваёй прэсе аблівала памыямі Главу праваслаўнае царквы ў Польшчы, а працавала ў сьціслым аб'яднаньні з галіцкімі вуніятамі.

У пастанове па агульнаму пытаньню зьезд Р. Н. А. скардзіцца на шкоднасьць свае ізоляцыі ад беларускіх і ўкраінскіх „груп населенія“ і даручае сваёй Вышэйшай Радзе дабіцца поўнага ўзаемнага разуменьня і супрацоўніцтва паміж Р. Н. А. і гэтымі „групамі населенія“.

Супрацоўніцтва гэтае магчыма было-б толькі пры шчырасьці Р.Н.А. Найбольш адпаведным грунтам для выяўленьня гэтае шчырасьці для Р. Н. А. зьяўляецца грунт царкоўны, агульны для ўсіх нас. Кожны з народаў, у тым ліку беларускі, украінскі, расейскі і г. д. мае свае пытаньні нацыянальныя, культурныя, палітычныя і г. д.

Але царква ня можа быць аружжам барацьбы пры вырашэньні гэтых пытаньняў. Яна, як установа надзвычайная, павінна ставіцца ўсімі намі вышэй нашых нацыянальна-хатніх пытаньняў. Толькі пры шчырым падзеле Р. Н. А. гэтага погляду магчыма будзе сумесная праца паміж праваслаўна-веруючым беларускім грамадзянствам і Р. Н. А.

**Сано.**

---

# Вялікоднае яйка.

Аб звычаю ўжываць на Вялікдзень фарбаваныя яйкі існуе наступная легенда.

Калі, пасьля мучэньняў Хрыстовых, Яго сьмерці і васкрасеньня, сьв. Апосталы разыйшліся па ўсім краінам, каб навучаць аб Хрысьце, сьв. Марыя Магдаліна пайшла ў Рым.

Сьв. Марыя Магдаліна паходзіла з гор. Магдалы, ад якога і атрымала назоў „Магдаліны“. Падчас зямнога жыцьця яна ў доме Сымона абмыла ногі Спасіцеля сьлязьмі і абцерла іх сваімі валасамі. Бачучы гэта, Хрыстос сказаў ёй, што адпушчаюцца грахі яе „многі“, бо ўзьлюбіла Хрыста „многа“.

Ходзячы пасьля за Ісусам Хрыстом і слухаючы Яго навуку, яна была сьведкаю крыжавых мучэньняў Хрыста, Яго сьмерці, і першая ўбачыла ўскросшага Хрыста, Які сказаў ёй: „ідзі да братоў маіх і скажы ім: ухаджу да Айца Маяго і Айца вашага, і Бога Маяго і Бога вашага“.

Абвесьціўшы радасную вестку аб васкрасеньні Хрыста Апосталам, Марыя Магдаліна казала аб гэтым і іншым.

У Рыме яна падала цару Тыбэрыю чырвонае яйка і сказала: „Хрыстос Васкрос!“

Пасьля гэтага яна расказала і цару Тыбэрыю аб Ісусе Хрысьце, які вельмі разгневаўся на Пілата і іудэйскіх архіярэяў за тое, што яны бязьвінна засудзілі Спасіцеля на сьмерць, за што і былі пакараны.

Калі хрысьціяне даведаліся аб такім учынку Марыі Магдаліны, яны, пры ўспаміне аб васкрасеньні Хрыста, пачалі мяняцца паміж сабой яйкамі з радасным прывітаньнем: „Хрыстос васкрос!“ „Запраўды васкрос!“.

Такім чынам учынак Марыі Магдаліны моцна вайшоў у жыцьцё ўсіх хрысьціян, і як прыгожы звычай захаваўся да нашых часоў. І гэта зусім адпавядае ўрачыстасьці сьвята Васкрасэньня Хрыста. Гэтым звычаям выяў-

ляецца нашая вера ў перамогу Хрыста над сьмерцю і надзея на нашае адраджэньне ў будучым жыцьці.

Яйка здаецца ня жывым, але ў ім зараджаецца жыцьцё — жывая птушка, якая „падымаецца“ ў нябесную вышыню. Так і Хрыстос, уваскрэсшы з гробу, узьнёсься на небеса. Так і мы ўваскрэснем і сілаю Найвышэйшага ўзьнясемся да жыцьця нябеснага.

Чырвоны колер яйка прыпамінае нам аб крыві Хрыстовай за нас пралітай, а іншыя колеры — служаць сымболям агульнае радасьці.

Праваслаўныя хрысьціяне дарацъ адзін аднаму яйкі пры ўзаемных пацалунках. Гэтым выяўляецца нашая пакора і паслухмянасьць Хрысту, пакінуўшаму нам свой загад любіць адзін аднаго, і вера ў тое, што Ен пагадзіў нас усіх паміж сабою і з Госпадам Богам.

Будзем і надалей захоўваць гэты прыгожы звычай сьвятой старажытнасьці. Абдараючы адзін другога фарбаванымі яйкамі, з вераю і любоўю будзем узаемна віншаваць сябе радаснымі словамі: „Хрыстос Васкрос!“ „Запраўды васкрос!“

Алі.

# Вялікодная пасха.

— *(Праўда)* —

I.

Была Вялікая Субота.

Сяляне, сьпяшаючыся канчалі папраўляць агарожы, чысьцілі двары; жанчыны, стоючы ля печы ад самае раньніцы, бяз концу пяклі, смажылі, гатавалі,—коратка кажучы, усе прыгатаўляліся да сьвята Вялікадня.

Ня было ніякіх прыгатаўленьняў толькі ў канцавой хатцы беднага Даніла.

Седзячы на зрубку дрэва на двары, ён, злажыўшы рукі і зьвесіўшы галаву на грудзь, аб нечым задумаўся. На яго добрым, яшчэ нястарым твары, абросшым круглаю, ледзь сівою барадой, ня было і цені суму, ён здавалася зусім падпарадкаваўся волі лёсу.

Непадалёк на сьвежай зялёнай траўцы гулялі, як вясёлыя матылькі, двое яго дзяцей, напаўняючы паветра серабрыстым сьмехам. Даніла ад часу да часу паглядаў на іх і пешчатліва ўсьміхаўся, пасьля зноў заглыбляўся ў свае думкі.

— „Так, думаў ён, — заўтра, каму Бог дасьць прычакаць, вясёлае сьвята— Вялікдзень; усе прыгатаўляюць рожныя стравы, пякуць белыя пасхі, а ў меня дык і чорнага хлеба няма,—ужо ад Каляд адной бульбай перабіваемся, ды й тае не хапае; забраў Бог майго сынка, нядаўна пала цёлка, — усё мае багацьце... Бяда, голад, а зарабіць няма дзе. Але... дзякуй Богу за ўсё!“

Ен хутка ўстаў, як робіць чалавек, нешта пастанавіўшы, узяў торбачку, сякерку і пайшоў у лес.

Тут ён знайшоў на дрэве два вялікіх грыбы, якія вырастаюць часамі на старых дрэвах, прынёс іх у хату і пачаў абгладжваць, надаючы ім форму поўцыліндраў. Адзін з іх, абкруглены ўгары, пэлажыў на другі і пачаў прымацоўваць драўлянымі калкамі.

— Слава Ісусу Хрысту!

Даніла, захапіўшыся сваёй працай, уздрыгнуўся ад нечаканага прывітаньня.

— Слава на векі, — адказаў ён, глянуўшы ўзад.

Перад ім стаяў хлапец яго суседа.

— А гэта ты, Хведзька!

— Татка прыслаў вам, — сказаў хлапец, працягваючы клумак.

— Дзякуй, Хвядос, дзякуй твайму тату і маме; няхай Бог нагародзіць іх за іх дабрату і не пакіне, як яны не пакідаюць мяне.

Бядняк вельмі ўсьцешыўся.

— Бачыш, Наста, — сказаў Даніла, уваходзячы ў хату і звярачваючыся да жонкі; — Саўка прыслаў нам калбасу.

— А ведаеш што? — казаў ён. — Пасхі-та ў нас няма, нядобра неяк!... Я вось што надумаў: белай мукі, — ты казала, — у нас яшчэ жменька засталася ад булкі, што пяклі на паніхіду па нябошчыку Янку. Дык вось зрабі з яе цеста і абляпі ім вось гэтую штуку, — гэта я з лесу прывёз... Ну, коратка кажучы, ведаеш, каб у нас была пасха хоць для віду.

— А ці будзе гэта добра? — сказала Наста. — Ці ня грэх гэта? Тут быццам абман выходзіць: дрэва, значыцца, панясем сьвяціць замест хлеба.

— Не, я думаю, граху тут ня будзе: Бог бачыць нашую беднасьць... Што-ж зробіш? Няхай у нас хаця-ж для віду пасха будзе, а пасьля, дасьць Бог, асьвяцім, скарынку зьямо, а рэшту спалім. Толькі ў нас і ёсьць, што гэтая калбаса, ды пары дзьве-тры яечак.

Наста так і зрабіла: абляпіла рэдзенькім цестам тое, што зрабіў Даніла з грыба, пасмаравала яечкам і пасха вышла з печы на дзіва: лёгкая, роўненькая, гладзенькая, як цацка.

II.

Вялікодная ноч. Ціхая, ціхая.

Цудоўная ноч! Беспадобная ноч! Есьць нешта бяз концу мілае, бяз концу дарагое, радаснае, і, разам з тым, надзвычайна прыгожае і ў гэтай ночы, і ў зацейлівых узорах пераліваючыхся зораў, і ў лёгкім падмуху вецярку, і ласкавым шэпце дрэваў...

І соладка, соладка, — бяз концу соладка на душы ў гэтую сьвятую ноч... О, які шчасьлівы ты, праваслаўны хрысьціянін, перажываючы такія выняткавыя — вялікія гадзіны ў тваім жыцьці, як Вялікодная ноч!

Бом... бом... бом... урачыста гудзіць царкоўны звон, носячыся па паветраным прасторы, прыемным, у душу пранікаючым гулам, напаўняючы ваколіцы і губляючыся недзе далёка-далёка ў палёх.

Бясконцымі чарадамі пацягнуліся ў царкву людзі, нясучы клумкі і драўляныя цабэркі, напоўненыя вялікоднымі прысмакамі.

Пайшоў разам з імі і Даніла, трымаючы ў руцэ маленькі клумачак. Здавалася, яшчэ ніколі ў жыцьці ён не адчуваў сябе так бадзёра, ня чуў такое радасьці, як у гэтую цудоўную ноч. Ен зусім забыўся аб сваім горы, бядзе, аб тым, што ў яго няма на сяньня нават кавалачку чорнага хлеба.

Вялікая, добра асьветленая царква была поўна народу, хаця-ж служба яшчэ не пачалася.

Шмат у годзе сьвяточных дзён... Але сьвята з сьвятаў гэта—Вялікдзень —адно-адзінае ў годзе. І хто ведае, каму Бог судзіў яшчэ прайсьці даўгія сходы з трохсот шасьцідзесяці пяцёх ступеняў, каб зноў дайсьці да гэтае вялікае радасьці?

Гэтым толькі і можна вытлумачыць, што на Службу Божу ў Вялікую Ноч сьпяшаюцца ўсе — ад малога да вялікага. нават і гультаі, нават і тыя, якія зусім загразьлі ў жыцьцёвых клопатах.

III.

Наьокала царквы разьмясьціліся, прынесшыя сьвяціць пасху, творачы жывы вянок, пераплецены золатам запаленых сьвечак.

Каля Данілы ў гэтым жывым вянку ўмясьціўся багатыр Язэп з жонкаю, ведамы ў вёсцы сваёю жорсткасьцю, хцівасьцю і наагул сваім багацьцем, нажытым чужою крыўдай, чужым потам і сьлязьмі.

Пры ясным сьвятле ён адразу заўважыў прыгожую пасху Данілы, і так і ўпіўся ў яе вачыма, і мімаволі прыраўноўваючы яе да сваіх, хаця-ж і белых, але крывых і патрэскаўшых.

„Бачыш ты, голь-та!“ — Думаў багатыр, называючы „гольлю“ беднякоў, падобных да Данілы. — „Голь-та... га?... Якую пасху прынёс! Напэўна ў хаце з поўдзясятку такіх пакінуў, а сюды адну прынёс, каб перад людзямі паказацца бедным. Таксама народ! Енчаць заўсёды: „Бедныя мы, памажыце, ды процэнтаў шмат не бярыце“, калі ў займы даеш галадранцам гэтым,— ведама народ хцівы! А пасхі дык якія пякуць... Га?“

Ен паглядзеў на жонку і ўбачыў, што яе вочы таксама, як магнэт, прыцягае пасха Данілы, і прачытаў у іх свае думкі.

А бядняк Даніла, слухаючы ў царкве Службу Божу і шчыра молячыся, і ня думаў, што яго „паска“ зрабілася прадметам увагі багатыроў.

Сьвечкі між тым дагарэлі і зрабілася цёмна, жонка Язэпа, схіліўшыся, пачала нешта папраўляць каля свайго цабэрка.

Служба скончылася.

На двары паказалася працэсія. Жывы вянок закалыхаўся, загудзелі радасныя галасы, зноў зажгліся залатыя агоньчыкі... І гэты канец ціхай, цёмнай ночы, уступаўшай мейсца вясёлай раньніцы, і гэтыя радасныя твары молячыхся, і вагоньчыкі, і працэсія,—усё гэта разам складала ўрачысты абраз. А хор пяяў: „Сей дзень, его-же сатвары Гасподзь, возрадуемся і возвеселімся в онь.“

Даніла пасьпяшыў да свайго мейсца.

— Хрыстос васкрос! Хрыстос васкрос! — Вітаў сьвяшчэньнік народ, — благаслаўляючы яго крыжам.

— Запраўды, запрауды васкрос! — гудзелі тысячы галасоў...

Асьвяшчэньне скончылася. Усе пасьпяшылі да выхаду. Вось Язэп панёс з жонкаю свой вялізарны цэбар, пасьля Мікіта, Сыльвэстр, стаяўшыя каля Даніла.

Даніла паволі ўзяў свой клумачак і, шэпчучы словы малітвы, пайшоў да брамы. Тут яго чакала жонка і дзеці, і яны разам вясёлыя і радасныя пайшлі да хаты.

IV.

На ўсходзе загарэлася зара, афарбоўваючы хмаркі ў ліловы і залаты колер; паружавелі вішнёвыя сады, поўныя салодкага паху; дыамэнтамі загарэліся кропелькі расы; заблішчэў залочаны крыж на высокай званьніцы ад першых сонечных касуляў, прабраўшыхся праз заснуўшую на гарызонце хмарку; запялі птушкі, — гэтыя мілыя Божыя стварэньні... І людзі, і неба, і зямля напоўніліся радасьцю.

— Наста! Хрыстос васкрос! Дзеці! Хрыстос васкрос! — Хрыстосаваўся Даніла з сваёй сям'ёй, падаваючы кожнаму па яечку.

І гэтая бедная сям'я за сваім бедным вялікодным сталом у цеснай хатцы, асьветлянай маленькім ваконцам, была так шчасьліва, як ня быў шчасьліў іншы багатыр у сваім пышным палацы за сталом, застаўленым смачнымі стравамі.

А сонейка, гледзячы ў маленькае ваконца і весела ўсьміхаючыся, няслэ гэтым людзям сьвятло, цяпло і ласку.

— Мама! Я хачу пасхі, — сказаў маленькі Васілёк, паказваючы на пасху, пакрытую хусткай.

Бацька з маткаю пераглянуліся.

— Ну спрабуем нашае пасхі, — сказаў Даніла, бяручы нож, каб адламіць ім скарынку.

— А Божа-ж мой!.. Наста!... Глянь, гэта-ж і запраўды пасха! Вось глядзі, якая белая ў сярэдзіне. Хлеб, запраўды хлеб, а наша-та... Што-б гэта значыла?

— Ці ня ўзяў ты, крый Божа, чужое?

— Але, запраўды!.. — Разважаў Даніла. — Не, гэтага я ня мог зрабіць: Язэп і Мікіта, што стаялі каля мяне, пайшлі раней, а я пасьля, значыць, сабраў канцы хустачкі, паволі, не сьпяшаючыся, і пайшоў дамоў.

— Дык можа з іх хто ў посьпеху забраў нашую замест свае? Ці не пайсьці табе да іх? Пасха ўсё-ж чужая, ня добра... грэх, я думаю.

— Дай схаджу да Язэпа, яго пасхі былі каля нашае, а Мікітавы наводаль.

— Хрыстос васкрос!—сказаў Даніла, уваходзячы ў хату Язэпа.

—Запраўды,—неахвотна, праз зубы, прамовіў той, хмурна.

— Ці ня вашую пасху ўзяў я памылкова замест свае?

— Ці не ляпей ад мяне твая жонка ўмее пасхі пячы, каб я тваю брала? — з пагардаю адказала жонка Язэпа.

— Не я кажу... таго... ці не па памылцы, я сам, значыць...

— Ідзі, ідзі, — перабіла яго тая. — Знайшоў калі па хатах хадзіць, людзям спакою не даваць.

Даніла вышаў.

— Не, Наста! Яшчэ абразілася Мар'я, „якія, кажа, твая жонка пасхі пячэ каб я стала браць? Ідзі, значыць, вынасься!“ Не, гэта, відаць, нам Бог даў хлеб замест дрэва.

V.

У сьветлы панядзелак, позна ўвечары, калі ў хаце Язэпа ўжо ўсе спалі, да яго нехта пастукаў.

— Адчыніце, адчыніце, — пачуліся галасы.

— Хто там?

— Справу маем, адчыніце!

— Язэп з жонкаю пачулі знаёмыя галасы і сьцямілі ў чым справа: яны чакалі сватоў да дачкі.

— Гапка! уставай! Ну-ж хутчэй уставай, старасты прыйшлі! — сьпяшаючыся будзіла Мар'я дачку.

—Ой, Божа мой, што-ж мне рабіць?

— Ідзі хутчэй у камору!

І Гапка хутка пайшла праз сені ў камору.

— Сьвяці, Мар'я, агонь! Та жыва! — камандаваў Язэп, падыходзячы да дзьверы.

Госьці вайшлі ў хату.

— Хрыстос васкрос! — загаманілі разам галасы.

— Запраўды васкрос! Запраўды васкрос! — ветліва адказалі гаспадары.

— Сядай, Саўка,—госьцям будзеш! Сядай, Раман, сядайце ўсе!

— З чым добрым прынёс Бог так позна? — быццам нічога ня ведаючы, пыталіся гаспадары.

— Ой, здарылася ў нас бяда — сказаў Саўка — чалавек вясёлы, гадоў 45, з ветлівым выразам твару.—Цялічка ў нас прапала, вось мы яе й шукаем.

— А чыя-ж тая цялічка? — спытала Мар'я.

— Міколы Знайдыбіды. Хлапец яго, значыць, Сымон купіў неяк, а яна ўзяла ды й уцякла!... Вельмі-ж сумуе Сымон па сваёй цялічцы, каб каму іншаму не досталася; так яна яму спадабалася!

— А якая тая цялічка?

— Такая жоўценькая, а тут, на лобе, значыць, беленькая. Дык ці няма ў вас такое?

— Ой ёсьць у нас такая, ёсьць — сказала Мар'я, выходзячы з хаты.

— Ну што, Гапка, пайдзеш за Сымона Знайдабіду?

— Ох, ня ведаю, мама, што й рабіць! А вы як скажаце?

— А як хочаш, твая воля.

— Ну дык хіба пайду.

— А ці не маглі-б вы паказаць нам тую цялічку? — загаманілі госьці, звярочваючыся да гаспадыні, калі тая вайшла ў хату.

— Сяньня не пакажам, бо ўжо позна; прыходзьце заўтра ўдзень, а цялічка няхай начуе.

— Ну дык няхай здарова начуе, мы ўжо заўтра яе пагледзім.

Госьці пайшлі.

VI.

На другі дзень пасьля абедні тыя-ж госьці, што і ўчора, і Мікола Знайдыбіда, сядзелі ў хаце за сталом. Гапка стаяла ля печы, саромліва апусьціўшы галаву і перабіраючы пальцамі канец свайго хвартуха. Гутарка ішла аб ёй.

— Мая Гапка, ведаеш Мікола, — разышоўся Язэп, — работніца добрая і гаспадыня будзе на дзіва! Мар'я ў мяне ведаеш якая? Ну, а што матка ведае, таму й дачку навучыць.

— Верна, верна, — падхапілі госьці.

— Вось, напрыклад, якія пасхі мая Гапка пячэ? —Прынясі, Мар'я, з каморы пасху. — Спрабуем яе, сказаў Язэп і ўсадзіў нож.—Быццам засохла тр... — Пачаў была ён, націснуўшы нож, але ня скончыў: пад нажом затрашчэла; пасха разваліласяна дзьве часткі, і адна палова глуха стукнула аб стол, перавярнуўшыся ніжняй часткаю ўгару. Мар'я ахнула, усплеснуўшы рукамі, ды так і затрымалася бяз руху. Госьці пераглянуліся з зьдзіўленьнем, убачыўшы перад сабою замест пасхі два кавалкі драўлянага грыбу цёмна-жоўтага колеру, —адзін на стале, а другі ў руках Язэпа.

У вачох багатыра пацямнела ад сораму, пасьля ўсё закружылася: сьцены, падлога, лаўкі з гасьцямі і стол, — усё гэта так і пайшло ўкруг.

Калі гаспадары апамяталіся, гасьцей ня было.

—:—

— І дзіўна так ведаеш, Гапка. — Расказваў Саўка жонцы аб тым, што здарылася ў Язэпа. — Што-б гэта магло быць,— ні як ня скемлю — скончыў ён.

— А-а-а, татка, — сказаў яго сын Хвядос — ведаю, ведаю, што гэта. У суботу я прынёс Даніле калбасу, што вы

далі, а ён абгладжваў грыб гэты самы— зусім да пасхі было падобна, толькі я ня ведаў тады: так сабе, думаю, нешта робіць.

— Дык чаго-ж яна ў Язэпа апынулася, я такі ні як ня скемлю?

— Параска Данілы казала, што ў іх нехта пасху падмяніў. Татка яе хадзіў да Язэпа: „Можа ненарокам замест свае, кажа, узялі“, а яны яму: „Ідзі, ня бралі мы твае пасхі!“

— Ба-а... ха ха-ха! засьмяяліся Саўка з жонкаю.

— Вось дык багатыр! Бедны Даніла, значыць, хоць для віду хацеў паказаць, што ў яго ёсьць пасха, а багатыя ўзялі ды й падмянілі: з віду мусіць вельмі харошая была!,. Ха-ха-ха! Вось і падмянілі — пасху на грыб!

А яшчэ хваліцца: „Паглядзіце, кажа, якія пасхі мая Гапка пячэ!“ Для сватоў, відаць, і схавалі гэтую пасху, каб было чым сваю Гапку пахваліць — ведалі-ж, што Мікола сьвятамі сватоў прышле.

— Вельмі-ж хуткія на чужое і зайздросныя, — заўважыла Ганя.

— І пакараў-жа Бог: ад сораму аж аслупелі.

— Што ім сорам? Я думаю, больш пасхі свае шкада было.

— Ха-ха-ха! А праўду ты, Ганя, кажаш! І казаў-жа я Міколе: ня суйся да гэтых людзей! Ці-ж мала дзяўчат у вёсцы?

— А Даніла, Даніла!? Гэта сьвятая душа! Насіў яшчэ да багатыра яго пасху, думае: „Ці ня сам я, крый Божа, узяў чужую пасху замест свае?..„ Ды й Наста мусіць: „Занясі, грэх за чужое!„ Такія ўжо багабойныя людзі!

---

Гэты выпадак маланкай абляцеў усю вёску. Сьвяшчэньнік паслаў Даніле пасак і рожных прысмакаў.

Прыклад быў вельмі заразьлівы: з усіх канцоў вёскі пацягнуліся да беднага Данілы з клумкамі, напоўнянымі рожнымі стравамі.

**Сьвяшчэньнік І. Танашэвіч.**

# Будзьце шчырымі.

У № 5 „Беларускае Зарніцы“ ад 1 лістапада 1928 г. была пададзена вестка, што скліканьне Мітрапалітальнае Рады, у канцы верасьня, якая мела падгатаваць і аканчальна апрацаваць матар'ялы для Краявога Сабору нашае Царквы, які быў вызначаны на пачатак студзеня 1929 года, — не магло адбыцца з прычынаў не залежных ад Вышэйшае Царкоўнае Улады.

Зразумела, што дзякуючы тым-жа прычынам ня мог быць склікаhigher ў пачатку студзеня г. г. і Царкоўны Сабор. „Беларуская Зарніца“ з таго часу амаль што дня ў кожным нумару пісала, што перашкоды да Саборнага ладу нашае царквы — вонкавыя.

Гэта было ведамым, здаецца, ня толькі нашай часопісі; гэта было ведама ўсім, хто шчыра цікавіўся гэтаю справаю. Падкрэсьліваем шчыра, бо нясклікаваньнем Сабору вельмі цікавяцца некаторыя органы польскае, украінскае і расейскае прэсы, але шчырасьці тут ня відаць, бо яны вінавацяць у гэтым не запраўдных віноўнікаў, але Вышэйшую Духоўную Уладу.

Калі такую нягодную працу можна прайсьці моўчкі ў прэсе чужой для Праваслаўнае Царквы, дык ня можна не зьвярнуць увагі на ганебную працу у гэтым напрамку тых органаў, якія лічаць сябе абаронцамі Праваслаўнае Царквы. Ня можа быць сумліву на чыю карысьць яны працуюць.

Доказам іх маны зьяўляецца факт, што яшчэ ў серпені 1928 г. Міністэрства Вызнаньняў загадам за № 4234 забараніла скліканьне Сабору да ўстанаўленьня Статуту аб адносінах паміж Праваслаўнаю Царквою і Дзяржаваю і без папярэдняе згоды па царкоўным справам з Міністэрствам.

Гэта-ж пан Міністар сцьвердзіў 28

лістапада 1928 г. і ў асабістай гутарцы з Блажэньнейшым Уладыкаю Мітрапалітам і Найсьвяшчоньняйшым Уладыкаю Аляксеем, дадаўшым пры гэтым, што і Рада Мітрапалітальная таксама ня можа быць склікана бяз згоды Міністэрства.

Як-жа справа абстаіць з статутам? зьмест яго апрацоўваецца ўжо некалькі гадоў?

Праэкты Статуту, апрацаваныя Сынодам, адкідае Міністэрства, бо, паводле яго думкі, яны надаюць вялікія правы Праваслаўнай Царкве,—а праэктаў статуту, апрацаваных Міністэрствам, ня можа прыняць Сынод, як шкодных для Праваслаўнае Царквы.

Ад часу да часу гэтыя праэкты раўняюцца, знаходзяцца пэўныя кампрамісы, і справа быццам падходзіць да канца. Гэтак шляхам кампрамісаў зыйшліся на праэкце Статуту, які быў зьмешчаны ў №№ 1 і 2 „Беларускае Зарніцы" за 1929 г.

З нашага пункту гледжаньня гэты праэкт далёка не задавальняе патрэбаў Праваслаўнае Царквы, але ўсё-ж такі ён зьяўляецца крокам уперад у параўнаньні з часовымі правіламі ад 1922 году.

Але Міністэрства зноў адмовілася прызнаць гэты статут.

Зразумела, што Сабор ня мог-бы не падняць пытаньня аб Статуце, унармоўваючым становішча Праваслаўнае Царквы і яе адносіны да Дзяржавы. Той праэкт Статуту, які-бы прыняў Сабор, быў-бы абавязкавым для сьв. Сыноду, ды й Міністэрству было-бы трудней яго адкінуць, бо гэта быў-бы вынік працы ўсяе Царквы і напэўна больш карысны для яе, чым той апошні, кампрамісны, на які Міністэрства ўсё-ж такі не згаджаецца.

Есьць людзі, якія хочуць навязаць сьв. Сыноду свой статут, для Праваслаўнае Царквы не карысны, які не палепшыў-бы становішча яе і духавенства ў параўнаньні з часовымі правіламі 1922 г.

Калі-б пасьля прыняцьця сьв. Сынодам такога Статуту быў склікаңы Сабор, дык зусім магчыма, што незадаваленьне Сабору вылілася-б па адрэсу сьв. Сыноду.

Імкненьне да такіх варункаў — умыснага падрыву пашаны з боку верных да сваіх іерархаў, да ўнутранага разладу ў царкве, — хіба-ж можа ўваходзіць у пляны блізарукіх і неадказных чыньнікаў, а не дзяржаўных палітыкаў, шчырых патрыётаў польскіх.

Палітыка Польшчы вымагае каб Праваслаўная Царква, якая мае каля 5.000.000 красавага насельніцтва, жыла ў супакоі і ўнутранай згодзе, а яе Іерархія карысталася належнай пашанай. Верым, што адказныя польскія палітыкі, разумеючы ўсю вагу для Польшчы Праваслаўнае Царквы, стануць не на гэты шлях, дадуць магчымасьць свабоднага разьвіцьця царкоўнага жыцьця і знойдуць у сабе сілы даць адпор тым неадказным шовіністычным і фанатычным чыньнікам, праз неразумную працу якіх на рэлігійным грунце Польшча столькі траціла ў мінулым.

**Алі.**

---

# ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22